# СВАБОДА

14 ліпеня 1995 г.

№28

Кошт свабодны

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 93 000



Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41


# “Народ проста хоча есьці”

Так пракамэнтаваў падзеі на Менскім заводзе аўтаматычных ліній лідар Свабоднага прафсаюза Генадзь Быкаў

**“У панядзелак, калі нашыя патрабаваньні ня будуць задаволеныя, увесь завод пойдзе да прэзідэнта на прыём”, — гэтае папярэджаньне рабочых МЗАЛ не здаецца кінутым на вецер.**

Прадпрыемства даўно вядомае як “страйканебясьпечнае”. Апошнія моцныя “штуршкі” тут былі ў лютым, і вось ужо “затрэсла” больш сур’ёзна. Гэта здарылася раніцай 11 ліпеня, калі рабочыя даведаліся, што зарплату за чэрвень, як раней і аванс, зноў адклалі “на потым”. Невялікі стыхійны мітынгператварыўся ў сход усяго калектыву, на якім рабочыя патрабавалі да панядзелка выплаціць заробак, перавесьці зарплату ў статус першачарговай выплаты і наогул выконваць калектыўны дагавор цалкам, а ня толькі асобнымі часткамі.

Пасьля абедзеннага перапынку завод пачаў працаваць і напруга спала, але рабочыя папярэдзілі, што паўза не павінна расцэньвацца як слабасьць. Калі спатрэбіцца, яны гатовыя разглядаць пытаньне аб страйку.

У той жа дзень, як нам паведамілі ў прэс-цэнтры Свабоднага прафсаюза, “узбунтаваліся” і рабочыя Аршанскага трактарарамонтнага завода. Ім зарплату ня плоцяць з траўня і, дарэчы, калектыўны дагавор паміж адміністрацыяй і прафсаюзамі дагэтуль не падпісаны. Патрабаваньні, перададзеныя ў адміністрацыю прадпрыемства, прыкладна тыя ж. Дадаць можна, што аршанцы патрабуюць таксама праіндэксаваць затрыманыя заробкі.

“Сітуацыя ў эканоміцы такая, што народу проста хочацца есьці, — так пракамэнтаваў падзеі Генадзь Быкаў. — Сярод патрабаваньняў, як бачыце, няма палітычных, але ў пэўным сэнсе гэта ўжо таксама палітычная барацьба, толькі эканамічнымі сродкамі. Палітыка ціску на адміністрацыю, на ўрад, на прэзідэнта”.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

## *Візіты*

**З 13 па 14 ліпеня ў Менску зь дзяржаўным візітам знаходзіцца прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. Учора адбыліся ягоныя перамовы з прэзідэнтам Лукашэнкам адзін на адзін і ў пашыраным складзе.**

Акрамя палітычнай дамовы аб дружбе, добрасуседзтве і супрацоўніцтве плануецца падпісаць пагадненьні аб працоўнай дзейнасьці грамадзянаў за межамі сваіх краінаў, аб умовах і парадку абмену жылых памяшканьняў, аб паветраных зносінах, аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі аховы здароўя на 1995—1996 гг. На перамовах абмяркоўваюцца пытаньні двухбаковага супрацоўніцтва ў гандлёва-эканамічнай галіне, ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС.

Падчас візіту Л.Кучма сустрэнецца з прадстаўнікамі ўкраінскай грамадзкасьці ў Беларусі, з кіраўнікамі прамысловых прадпрыемстваў, якія працуюць у кааперацыі з украінскімі.

Як паведамілі ва ўкраінскай амбасадзе, прэзідэнта Украіны суправаджаюць міністры, сярод якіх кіраўнік зьнешнепалітычнага ведамства. Жонка Л.Кучмы на Беларусь не прыехала.

*(працяг тэмы на стар.5)*

**Гэтымі днямі з афіцыйным візітам у Менску знаходзіцца першы віцэ-прэзідэнт Ісламскай Рэспублікі Іран доктар Хасан Хабібі.**

Падчас сустрэч з прэзідэнтам Лукашэнкам, прэм’ер-міністрам Чыгіром, міністрам зьнешнеэканамічных сувязяў Марынічам і кіраўніком зьнешнепалітычнага ведамства Сянько будуць падпісаныя двухбаковыя беларуска-іранскія дакумэнты.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Калгасы даўно бяз грошай

**У Віцебскай вобласьці аб’ёмы сельгасвытворчасьці за першае паўгодзьдзе зьнізіліся на 16,4% у параўнаньні з адпаведным перыядам мінулага года.**

Але нават гэтую прадукцыю калгасаў і саўгасаў прадаць немагчыма з-за яе высокага кошту. На складах ляжыць прадукцыі на 101 млрд. рублёў. З гэтай прычыны ня могуць атрымаць заробак і тысячы калгасьнікаў. Напрыклад, у сакавіку зарплату не атрымалі ў шасьці гаспадарках вобласьці, у красавіку — у 185-ці, а ў траўні ня выплацілі зарплату ажно ў 412 калгасах і саўгасах.

**Тамара СЁМУХА**



# Зьезд прагаласаваў за Пазьняка, але ўсе чакаюць рэформаў

**Як адзначаюць назіральнікі, IV зьезд Беларускага Народнага Фронту, які завяршыўся 8 ліпеня, быў як ніколі плюралістычным.**

Была і жорсткая крытыка кіраўніцтва, і канкрэтныя прапановы па рэфармаваньні БНФ. У прыватнасьці, абмяркоўваўся варыянт, каб падзяліць БНФ на дзьве арганізацыі — партыю і рух. Аднак прапанова не знайшла падтрымкі сярод большасьці ўдзельнікаў зьезду. Прыхільнік гэтай ідэі Ю.Хадыка балатаваўся разам з З.Пазьняком і В.Грыцуком на пасаду старшыні БНФ. У выніку галасаваньня (бюлетэнямі) перамог Зянон Пазьняк, набраўшы 224 галасы “за” пры 55 “супраць”. Лідар БНФ таксама прызнае неабходнасьць рэформаў у Фронце, але ён быў супраць таго, каб “ламаць дровы”.

Намесьнікаў выбралі практычна без дыскусіяў. Імі сталі: Лявон Барშчэўскі, Юрась Беленькі, Вінцук Вячорка, Станіслаў Гусак і Юры Хадыка.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Выбары на Беларусі — “кампанія дэзінфармацыі”

**Эўрапейскі інстытут mass media (EIM), які знаходзіцца ў Дзюсэльдорфе, апублікаваў на Захадзе свой аналіз аб тым, як у беларускіх газэтах, на тэлебачаньні і радыё асьвятлялася мінулая выбарчая кампанія. Галоўная выснова інстытута наступная: “абстаноўка рэпрэсіяў пазбавіла народ Беларусі магчымасьці зрабіць усьвядомлены выбар паміж кандыдатамі”.**

Інстытут таксама назваў асьятленьне рэфэрэндуму “кампаніяй дэзінфармацыі”.

Вось некаторыя вытрымкі са справаздачы EIM.

У выніку ўказу прэзідэнта Лукашэнкі, “усе вялікія штодзённыя дзяржаўныя газэты і большасьць рэгіянальнай прэсы былі фактычна пазбаўленыя дыскусіяў па палітычных пытаньнях, якія праводзіліся паміж партыямі і кандыдатамі. Нацыянальныя тэлебачаньне і радыё таксама былі пазбаўленыя права актыўна асьвятляць выбарчую кампанію. У выпусках ”Навінаў” паведамленьні аб выбарах былі вельмі абмежаванымі. Часта яны забіралі менш за хвіліну эфіру ў 40-хвілінных праграмах”.

“Зь іншага боку, тэлебачаньне не саромелася трансляваць заявы прэзідэнта Лукашэнкі, у якіх ён нападаў на палітычныя партыі і лідараў, якія яму не падабаліся. Дзяржаўныя тэлебачаньне і радыё, гэтаксама як і дзяржаўныя газэты, відавочна былі пад прамым кантролем і наглядам прэзідэнта і ягонай каманды”.

Пасіўнасьць радыё і тэлебачаньня ў выбарчай кампаніі рэзка кантраставала зь іхнай актыўнай роляй у іншых грамадзкіх пытаньнях. EIM піша, што “ў адпаведнасьці са сваімі ўнутранымі дакумэнтамі, беларускае дзяржаўнае радыё мела дзьве асноўныя мэты: 1) заахвоціць насельніцтва прыняць удзел у рэфэрэндуме, 2) заахвоціць прагаласаваць ”за” па ўсіх пытаньнях...”

“Напрыклад, 10 траўня круглы стол па рэфэрэндуме трансляваўся адначасова па радыё і тэлебачаньні, былі прадстаўленыя 10 удзельнікаў... і амаль усе мелі аднолькавы пункт гледжаньня па ўсіх 4-х пытаньнях”.

“Надзвычайна аднабаковы накірунак, у якім дзяржаўная тэлекампанія прадстаўляла аргумэнты ”за” і “супраць” пытаньняў рэфэрэндуму, не патрабаваў ніякага прафэсійнага журналізму”, — гаворыцца ў справаздачы.

Другі тур выбараў “фактычна не асьвятляўся”, — сьцьвярджае EIM. Найбольш увагі было аддадзена сьвяткаваньню прэзідэнцкай перамогі на рэфэрэндуме і паразе БНФ, чым самім выбарам.

Адзначаецца, што ў галіне СМІ беларускія ўлады не дапускаюць “сапраўдных пераменаў”. “Усе асноўныя агульнанацыянальныя газэты зь вялікімі тыражамі — і найбольш моцна субсідаваныя — усё яшчэ ў дзяржаўнай уласнасьці і пад уплывам ураду і прэзідэнта”.

У аналізе зьвяртаецца таксама ўвага на “сур’ёзныя інцыдэнты”, што мелі месца яшчэ перад выбарамі: быліануляваныя кантракты некаторых газэтаў зь дзяржаўнымі друкарнямі, чацьвёра рэдактараў адхіленыя прэзідэнцкім указам, зачынены прыватны тэлевізійны “8 канал” — гэта “прыкметы нездаровай сітуацыі ў беларускіх СМІ”.

Гэтае дасьледаваньне рабілася для Эўрапейскага Зьвязу.

**В.З.**



# Фронт прапануе аб’яднацца ўсім дзяржаўнікам

**У аўторак 11 ліпеня ў штабкватэры Народнага Фронту адбылася прэс-канфэрэнцыя новага кіраўніцтва БНФ, на якой яшчэ раз былі расстаўлены ўсе кропкі над “і” пасьля зьезду.**

“Нельга дапусьціць, каб нас сьпіхнулі на край палітычнага спэктру, зрабілі з нас радыкальную сэкту. Мы такія ня ёсьць”, — заявіў Вінцук Вячорка, адзін з новых намесьнікаў старшыні. Ён падкрэсьліў, што на зьезьдзе ніхто ня быў супраць стварэньня шырокага альянсу ўсіх дзяржаўнікаў, кааліцыі дэмакратычных сілаў на глебе незалежнасьці. Сп.Вячорка ўпэўнены, што такі альянс трэба стварыць незалежна ад тэрмінаў выбарчай кампаніі.

Пра неабходнасьць аб’яднаньня казаў і Зянон Пазьняк. Адказваючы на пытаньне газэты СВАБОДА наконт таго, ці будзе мець працяг сустрэча палітычных і грамадзкіх лідараў, якая адбылася напачатку ліпеня ў Акадэміі навук, сп.Пазьняк паведаміў: “На сустрэчы ўдалося знайсьці паразуменьне па пытаньнях дзяржаўнасьці і прарыву інфармацыйнай блакады, па прапанове правесьці недзе ўвосень Кангрэс дзяржаўніцкіх сілаў... У гэты час, калі ідзе пагроза дзяржаве, трэба каардынаваць сілы нават з палітычнымі праціўнікамі”. Лідар БНФ лічыць, што прынцып супрацоўніцтва павінен быць такім: “Мы адзін аднаго не крытыкуем, асабліва па палітычных пытаньнях. Мы розныя. У нас ёсьць адно — дзяржава. Давайце думаць, як яе захаваць”.

Такім чынам, дасягнутая аснова для далейшага разьвіцьця ідэі і пашырэньня кола яе ўдзельнікаў. Пазьняк адзначыў, аднак, што ініцыятыва ўжо павінна ісьці ад іншых людзей, “каб не падумалі, што Фронт зноў хоча нешта ўзначаліць. Ніхто нічога ня хоча ўзначальваць... Калі трапілі ў такі рэжым, трэба знайсьці магчымасьць выратаваць дзяржаву ў гэтым рэжыме. Калі мы знойдзем сілы для гэтага, мы пакажам сьпеласьць нацыі”, — лічыць лідар БНФ.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Менскія ўлады супраць беларускай гісторыі?

**Менскі гарвыканкам не дазволіў сьвяткаваньне ў сталіцы 585-й гадавіны перамогі беларуска-польска-літоўскага войска над нямецкімі крыжакамі пад Грунвальдам.**

Значэньне гэтай перамогі, дзе была праяўлена мужнасьць беларускіх палкоў, відавочная — Беларусь на 500 год была пазбаўлена нямецкай агрэсіі. Сьвята Грунвальду шырока адзначаецца ў Польшчы і Літве. Сёлета ўрачыстасьць на Грунвальдзкім полі ўзначаліць Прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса. Назва Грунвальд (па-літоўску — Жальгірыс) — самая папулярная ў Літве.

**Мікола АХРЫМУК**

*P.S. 15 ліпеня а 17 гадзіне каля Палаца моладзі (вул.Нававіленская) адбудзецца Рыцарскі турнір.*

## Камуністы патрабуюць вярнуць ім рэліквію

**11 ліпеня ў Менску камуністы зноў пікетавалі Дом-музэй 1-га зьезду РСДРП з патрабаваньнем да прэзідэнцкай адміністрацыі аддаць ім гэтую рэліквію.**

Кіраўніцтва музэя лічыць гэтыя патрабаваньні "правакацыйнымі", бо партыя ня можа забраць ва ўласнасьць помнік рэспубліканскага значэньня. Акрамя таго, трэба ўлічваць, што прэтэнзіі на дом-музэй можа выказаць таксама БСДГ, бо тут зьбіраліся менавіта сацыялдэмакраты. Аднак сапраўдны дом, як вядома, згарэў падчас вайны, а музэйны быў пабудаваны нават не на тым месцы.

Два мінулыя гады дом-музэй рэстаўраваўся коштам спонсараў і праз пару тыдняў тут адкрыюць новую экспазіцыю, прысьвечаную гісторыі сацыял-дэмакратычнага руху. Экспанаты, знойдзеныя ў архівах Расеі і ЗША, распавядаюць пра ўдзельнікаў 1-га зьезду, большасьць зь якіх эміграваліі за мяжу.

Дарэчы, утрыманьне памяшканьня каштуе 100 мільёнаў рублёў на квартал. Аднак камуністаў гэтая сума не палохае.

Дырэктар дома-музэя Сяргей Сіманюкоў лічыць, што "сітуацыя непрадказальная, але як прэзідэнт вырашыць, так і будзе".

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Іван Каратчэня клапоціцца пра выбаршчыкаў

**Выбаршчыкі Любаньскага раёну не памыліліся, абраўшы сваім дэпутатам у Вярхоўны Савет Івана Каратчэню — выканаўчага сакратара СНД.**

Нядаўна Іван Міхайлавіч зрабіў падарунак сваім выбаршчыкам, перадаўшы з гаража СНД чатыры "Волгі" старшыням калгасаў Любаньскага раёну. Іншыя пяць калгасных начальнікаў па лініі сакратарыяту СНД паехалі на тыдзень у Брусэль, дзе будуць знаёміцца зь дзейнасьцю розных эўрапейскіх структураў.

Зрабіў Іван Міхайлавіч і сабе падарунак. Ён цяпер езьдзіць на новым "BMW", які каштуе каля 100 тыс. даляраў.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Незалежнасьць не ў пашане

**Чацьвёрты раз спрабуюць прайсьці перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі прадстаўнікі Беларускага незалежнага прафсаюза, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Салігорску.**

Па словах старшыні БНП Віктара Бабаеда, "для перарэгістрацыі не хапае пары косак", якія "надвор'я ня робяць, аднак зьяўляюцца зручнымі адгаворкамі для чыноўнікаў". Характэрным паказьнікам адносінаў дзяржавы да незалежнага прафсаюза, на думку В.Бабаеда, зьяўляецца і той факт, што прэзідэнт рэспублікі не знайшоў магчымасьці наведаць IV зьезд БНП, правядзеньне якога супала па часе зь ягонай паездкай у Салігорск. У той жа час, як вядома, у рабоце зьезду ўдзельнічалі прадстаўнікі замежных прафсаюзаў, вядомыя заходнія і беларускія палітыкі.

**Сьвятлана СКРЫПНІК,**
***БелаПАН***

# Небясьпечныя танцы пад музыку Масквы

Станіслаў Шушкевіч лічыць, што расейскія спэцслужбы інсьпіравалі скандал, каб сарваць тэрміны вываду расейскіх стратэгічных сілаў з тэрыторыі Беларусі

**Спантаннасьць і малапрадказальнасьць сучаснай беларускай палітыкі асабліва рэзка выяўляецца ў самых далікатных праблемах. Сусьветная дыпламатыя яшчэ не пасьпела "астыць" пасьля скандалу з прыпыненьнем Беларусяй выкананьня сваіх міжнародных абавязацельстваў па раззбраеньні, як грымнуў новы — на гэты раз з усходняга боку.**

6 ліпеня газэта "Известия" апублікавала артыкул пад красамоўным загалоўкам: "Президент Лукашенко приостановил вывод российских стратегических сил из Белоруссии". *Па сьцьвярджэньні газэты, А.Лукашэнка, знаходзячыся ў Лідзе, заявіў, што паколькі дзьве краіны збліжаюцца па ўсіх лініях, расейскія ракеты трэба пакінуць там, дзе яны зараз знаходзяцца. Паведамляецца таксама, што Лукашэнка назваў рашэньне папярэдняга беларускага кіраўніцтва пра вывад расейскіх стратэгічных сілаў "буйной палітычнай памылкай".* Увесь далейшы тэкст артыкула быў прысьвечаны спробе даказаць, наколькі моцна расіяне прагнуць хутчэй вывесьці свае войскі і як беларусы перашкаджаюць ім у гэтым. "Известия" пішуць пра складанасьці для Беларусі ў справе перадачы жыльлёвага і казарменнага фонду, працаўладкаваньня беларускіх служачых, але нічога не гавораць пра яшчэ большыя праблемы расейцаў пасьля вываду сваіх стратэгічных сілаў. Зараз па віне беларускага боку графік вываду войскаў сарваны, а эшалоны з расейскай баявой тэхнікай стаяць на запасных пуцях у Лідзе.

**Па нашай просьбе сваё меркаваньне пра пэўныя падводныя камяні ў гэтай складанай сітуацыі выказаў Станіслаў Шушкевіч:**

*— Я думаю, што Лукашэнка заглынуў сьлімака, якога яму падсунулі расейскія спэцслужбы. Я ня вельмі веру ў вэрсію "Известий", нібыта Расея хоча забраць свае войскі, а беларускі прэзідэнт не пушчае. Добра ведаю, якія цяжкасьці чакаюць расейскіх вайскоўцаў з уладкаваньнем у сябе дома, і ведаю, у якім стане яны ў нас усё пакідаюць: разьбітым і разрабаваным.*

*Расея, відавочна, адчувае цяжкасьці зь вяртаньнем сваіх войскаў і хоча зрабіць вінаватай у гэтым Беларусь. І тут вельмі лёгка падштурхнуць нашага прэзідэнта, "вялікага абаронцу інтарэсаў Беларусі", на такі крок, як спыненьне вываду. Разыгрываецца спэктакль, у якім Расея па віне Беларусі не змагла б выканаць міжнародныя пагадненьні.*

Аднак беларускае кіраўніцтва, здаецца, хутка ўцяміла, чым могуць скончыцца манэўры з раззбраеньнем. Ужо на наступны дзень пасьля публікацыі "Известий" найбольш "наблізкая" да адміністрацыі газэта "Советская Белоруссия" адрэагавала артыкулам з апраўданьнем дзеяньняў беларускага кіраўніцтва, якое будзе "пунктуальна і ўсеабдымна" выконваць двухбаковыя пагадненьні. Гэта газэце пацьвердзілі ў адміністрацыі прэзідэнта. А затрымка з вывадам адбылася толькі таму, што "...Беларусь не Чачня, тут любяць расейскіх афіцэраў. Улічваючы ўсё гэта, нашы афіцыйныя асобы зусім не настойваюць на фарсіраваньні тэрмінаў вываду войскаў". Чарговая фантазія на тэму шчырага каханьня...

Як бы там ні было, але ў афіцыйных структурах відавочна выявілася жаданьне "замяць" скандал, зьвесьці яго да няўдалых выдумак маскоўскага журналіста. Начальнік аддзела раззбраеньня і міжнароднай бясьпекі Міністэрства замежных справаў Аляксандар Байчароў заявіў мне, што ніхто з афіцыйных расейскіх асобаў ня выказаў МЗС Беларусі ніякіх прэтэнзіяў. Па словах Байчарова, графік вываду расейскіх войскаў на самай справе вытрымліваецца, а зараз ідзе нармальная праца па ягоным удакладненьні.

У прэс-службе Міністэрства абароны запэўнілі, што адбылося не прыпыненьне, а затрымка вываду расейскіх войскаў, якая "ня мае ніякай палітычнай глебы". Існуюць, маўляў, пэўныя эканамічныя, экалагічныя ды іншыя асаблівасьці, з-за якіх трэба дапрацаваць некаторыя лічбы графіку вываду войскаў. Па словах намесьніка кіраўніка прэс-службы, нашай краіне непатрэбны ўвесь гэты скандал, і Беларусь хоча як мага хутчэй яго патушыць.

Як бычым, зацікаўленыя беларускія ведамствы імкнуцца зьмякчыць створаную прэзідэнтам няёмкую і двухсэнсоўную сітуацыю, тым больш што заходнія агенцтвы разьнесьлі паведамленьне "Известий" па ўсім сьвеце. Можна ўявіць, якія спатрэбяцца намаганьні, каб супакоіць дыпламатычны пажар.

Навошта ж было яго распальваць?

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**



У такім выглядзе пакінулі расейскія войскі базу ў Пружанскім раёне

## "Служебных" больш ня будзе?

**Нечакана для сябе наш урад зрабіў адкрыцьцё: у бюджэце няма грошай. Кабінэт Міністраў разам з прэзідэнтам пачалі ліхаманкава шукаць сродкі ў дзяржаўную казну.**

Нешта падобнае мы назіралі роўна год таму, калі Лукашэнка, прыйшоўшы да ўлады, скардзіўся народу, што прэм'ер Кебіч не пакінуў у бюджэце ні рубля. Аднак прамысловасьць тады яшчэ сяк-так працавала, а значыць было з каго ўзяць падаткі, каб залатаць бюджэтныя дзюркі.

А дзе цяпер узяць? Адна з крыніцаў, як заявіў Лукашэнка, адмяніць "усе ільготы". Прэзідэнцкі ўказ ужо нібыта падрыхтаваны і ў хуткім часе будзе падпісаны. Але пабачым, чым усё скончыцца і ці палепшыць гэта бюджэтныя справы. (Праблему беспрацоўя прэзідэнт ужо спрабаваў вырашыць указам аб працуючых пэнсіянэрах. Вынікі вам вядомыя.)

Тым жа, каго верагодна чакае страта ільготаў, раім не расчароўвацца. Паглядзіце на здымак: ці гэта тое, за што трэба трымацца?

**Іван СІДАР**




## БТР зваліўся ў Нёман

**Уначы з 10 на 11 ліпеня расейскі бронетранспартэр упаў з аўтадарожнага моста ў раку Нёман каля мястэчка Беліца Лідзкага раёну.**

З чатырох чалавек, якія знаходзіліся ў ім, загінулі маёр і два капітаны. Жывым застаўся прапаршчык. Другі БТР, які сьледаваў за імі, спыніўся.

Штаб стратэгічнай ракетнай часьці расейскіх войскаў дысьлакуецца ў Лідзе, а пад Беліцай і на другім беразе Нёмана ў Гезгалах Дзятлаўскага раёну знаходзяцца ракетныя базы.

**В.С.**

## На выканаўчую ўладу на дзея слабая

**Ледзьве ня самым галоўным дасягненьнем А.Лукашэнкі прадстаўнікі ягонай улады называюць стварэньне прэзідэнцкай "вэртыкалі". Але гэтае меркаваньне падзяляюць на ўсе.**

Старшыня Гарадзенскага аблсавету С.Домаш, лічыць, што ў галіне эканомікі дзеяньні мясцовых выканкамаў часта непрадуманыя і маюць адваротны эфэкт. У прыватнасьці, ён называе памылковым зробленае нядаўна ў Горадні аб'яднаньне былога вайсковага прадпрыемства "Хваля", дзе апошнім часам адбываліся забастоўкі, з заводам "Радыёпрыбор". Замест двух вялікіх і "хворых" прадпрыемстваў стварылі адно — яшчэ большае і ў яшчэ горшым стане. На думку С.Домаша, сёньня больш жыццяздольныя малыя і сярэднія прадпрыемствы, таму буйныя лепш падзяляць на некалькі меншых.

Аблсавету даводзіцца займацца выпраўленьнем памылак "вэртыкалі". Дэпутаты пераканаліся, што на "вэртыкальшчыкаў" ціснуць страх і ўказаньні зьверху, а таму канструктыўных дзеяньняў чакаць не даводзіцца. Напрыклад, зрабілі татальную праверку на сумесных прадпрыемствах, у выніку чаго шмат якія СП былі папросту прычыненыя. Падобныя дзеяньні адштурхоўваюць ня толькі заходніх інвэстараў, але і нашых.

Сп.Домаш лічыць, што ў Савеце ёсьць магчымасьць на законнай падставе стрымліваць выканаўчыя ўлады ў іхнай непрадуманай эканамічнай палітыцы.

**Л.Д.**

## Заводы на парозе банкруцтва

**Цяжкая эканамічная сітуацыя складваецца на прамысловых прадпрыемствах Берасьця.**

Каб утрымацца яе пад кантролем, гораду патрэбна ня менш за 40 млрд. рублёў на выплату зарплаты. Мясцовае кіраўніцтва дасылае тэлеграмы ў Кабінэт Міністраў з просьбамі аб дапамозе, а па вобласьці тым часам пракацілася новая хваля стыхійных забастовак. У прыватнасьці, на Берасьцейскім машынабудаўнічым аб'яднаньні каля паўтысячы рабочых пакінулі працу і выйшлі на мітынг. Яны абураліся затрымкаю зарплаты за сакавік, а таксама выплагаю яе каўбасою, абуткам і іншымі рэчамі.

У панядзелак забаставалі на Берасьцейскім электрамэханічным канцэрне. Прычыны — тыя ж.

З-за адсутнасьці сыравіны спыніўся Баранавіцкі баваўняны камбінат. Адміністрацыя зь 10 ліпеня адправіла тысячы тэкстыльшчыкаў у неаплочваемы летні адпачынак. Мяркуецца, што прастой працягнецца самае малое месяц.

У вымушаным адпачынку знаходзіцца частка калектыву Баранавіцкага авіярамонтнага завода. Рабочыя, праўда, тут яшчэ атрымліваюць нейкі заробак (2/3 тарыфнай стаўкі), але гэта азначае толькі адно: калектыў праядае ўсё, што зарабіў раней. Абаротныя сродкі не папаўняюцца.

Пачалі закрывацца прадпрыемствы на Століншчыне. На парозе банкруцтва знаходзіцца прадпрыемства "Гарыньбудматар'ялы", дзе засталіся бяз працы каля 200 чалавек, а таксама фабрыка кухоннай мэблі.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Слова — не верабей...

**У Полацкім гарадзкім судзе разглядалі справу таварыша Шчукіна, абранага нядаўна дэпутатам ВС.**

Падчас выбарчай кампаніі ён назваў Полацкую раду БНФ фашыстоўскай арганізацыяй. Таварыш Шчукін ня змог патлумачыць суду сваіх выказваньняў. Яму дазволілі шукаць доказаў да жніўня. А нядаўна сакратар Полацкага гаркаму ПКБ таварыш Ледзянёў на старонках газэты "Полацкі веснік" па-камуністычнаму "абгрунтаваў", чаму БНФ зьяўляецца фашыстоўскай арганізацыяй. Яго таксама хутка чакае судовая справа.

**Тамаш ГУРБА**

## Малаціць хутка будуць цапамі

**Тэхнічны парк многіх сельскіх гаспадарак Берасьцейшчыны з-за адсутнасьці сродкаў знаходзіцца ў страшэнна занядбаным стане. Спэцыялісты прадказваюць: калі справа пойдзе гэтак і далей, то праз некалькі гадоў зямлю давядзецца капаць рыдлёўкамі, а збожжа жаць сярпамі.**

Затое захаваюцца калгасы з гучнымі імёнамі: "Сьцяг Леніна", імя Дзяржынскага, "Запаветы Ільіча" ды інш.

**Лявон МУХАВЕЦКІ**

## "Мы ніколі ня будзем дзяржаўнай царквой"

**У мінулую суботу ў Менску сто дарослых вернікаў-баптыстаў прынялі сьвятое хрышчэньне ў вадзе Камсамольскага возера.**

У нашай краіне Саюз эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў аб'ядноўвае каля 30 тысяч чалавек і мае 170 цэркваў. Дзесяць із іх ("Сьвятло Эвангельля", "Віфлеем", "Галгофа" ды інш.) знаходзяцца ў сталіцы. Новыя малітоўныя дамы апошнім часам пабудаваныя ў Воршы, у вёсках Магілёўскай, Берасьцейскай і Менскай абласьцей. Мясцовыя ўлады ня вельмі задаволеныя ростам пратэстанцкай царквы, таму прымушаюць баптыстаў узгадняць будаўніцтва малітоўных дамоў з праваслаўнымі сьвятарамі.

Прэзідэнт Саюзу, пастар Аляксандар Фірысюк, у свой час (1959 г.) быў выключаны зь Беларускага тэхналагічнага інстытуту "за рэлігійныя перакананьні". Лічылася, што баптыст ня можа быць савецкім інжынэрам. Адарванасьць ад грамадзкага жыцьця стварыла баптыстам імідж пустэльнікаў, якія прытрымліваюцца здаровага побыту: ня п'юць, ня кураць, не разводзяцца, не трымаюць у руках зброю. У наш час прадстаўнікі Саюзу ўдзельнічалі ў распрацоўцы Закону аб альтэрнатыўнай службе, які так і не прыняты Вярхоўным Саветам. Вернікі стараюцца не афішаваць сваю дзейнасьць, баючыся, каб ім не забаранілі займацца дабрачыннасьцю ў дамах састарэлых, у бальніцах і дзіцячых установах. У Кобрыні яны пабудавалі дзіцячы аздараўленчы цэнтар, у менскім мікраёне "Сухарава" ўзводзяць дом міласэрнасьці. Нядаўна баптысты перадалі мэдычным установам 36 тонаў мэдыкамэнтаў. Яны шкадуюць, што ім не дазваляюць у выходныя дні выкладаць Слова Божае ў агульнаадукацыйных школах.

Пастар А.Фірысюк адзначыў:

"Мы ніколі ня будзем дзяржаўнай царквой, якая ў выніку ператвараецца ў ідэалагічную ўстанову і прыслужніцу палітыкі. Перад такой небясьпекай і спакусай знаходзіцца цяпер праваслаўная царква". Баптысты лічаць, што ўся зямля — Божая. Яна не належыць ні праваслаўным, ні каталікам, ні атэістам.

28 ліпеня прадстаўнікі Саюзу эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў Беларусі прымуць удзел у сусьветным кангрэсе баптыстаў у Аргенціне.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Украіна ня хоча назад у СССР

**Такое здараецца рэдка. У нашай краіне адначасова знаходзяцца дзьве высокія дзяржаўныя асобы, прычым — зь ісламскай і славянскай краінаў. Беларускае кіраўніцтва імкнулася паказаць, што візіт іранскага віцэ-прэзідэнта доктара Хабібі ня менш значны, чым прыезд украінскага прэзідэнта Леаніда Кучмы.**

З прэзідэнтам Кучмам падпісваліся важныя міждзяржаўныя дакумэнты, аднак гэтай падзеі надавалася чамусьці меншая ўвага, чым нядаўняму прыезду кітайскага прэм'ера Лі Пэна. Магчыма таму, што "малады палітык" Лукашэнка стараецца вучыцца менавіта ў Лі Пэна, а не ў Леаніда Кучмы, якога ўхваляе прэзідэнт ЗША за рэформы ў накірунку да дэмакратыі і рынкавай эканомікі. Наш прэзідэнт аднойчы прызнаўся, што "амаль кожны тыдзень па тэлефоне" ён павучаў прэзідэнта Кучму: "Ты ж прыйшоў да ўлады на палітыцы адзінства з Расеяй. Дык навошта ты так робіш? — шчыра пытаўся Аляксандар Рыгоравіч. — Я разумею, на Украіне ёсьць раскол, але большасьць за табой". Распавядаючы пра гэта на сустрэчы з дэпутацкай большасьцю нашага старога парламанту, Лукашэнка аж уздыхнуў: "Калі б Украіна павярнула, нам было б лягчэй".

Але Украіна не павярнула да рэанімацыі СССР. Наадварот, яе насьцярожыла занадта бурнае імкненьне Беларусі зьліцца з Расеяй. Як сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ член Прэзідыума Вярхоўнай Рады Украіны Вячаслаў Чарнавіл, падчас візіту Л.Кучмы ў Менск "магчыма будуць праблемы этычнага парадку. Той спосаб правядзеньня рэфэрэндуму, спосаб паводзінаў вашага прэзідэнта ўскладнілі візіт Кучмы. Але мы зусім ня супраць гэтага візіту."

Нягледзячы на тое, што пасьля рэфэрэндуму ў Беларусі на ўкраінскіх абшарах пачалі зьяўляцца ізаляцыйныя ідэі і крайнія сілы выказваліся супраць візіту Кучмы ў Менск, большасьць упэўнена, што кантакты неабходныя і Кіеў можа паўплываць на Менск. Пасьля таго, як візіт некалькі разоў адкладваўся, прэзідэнт Лукашэнка вырашыў паказаць Кучме, што ў яго "свае планы". У выніку — візіт супаў з прыездам іранскага віцэ-прэзідэнта. Калі Лукашэнку будзе цяжкавата размаўляць са славянскім братам, ён, каб паўзы не былі занадта працяглымі, адвядзе душу з братам ісламскім.

На думку В.Чарнавіла, "калі Кучма стаў прэзідэнтам такой патэнцыйна вялікай эўрапейскай дзяржавы як Украіна, то ён цудоўна зразумеў, што лепш быць прэзідэнтам незалежнай дзяржавы, чым сядзець у суседа ў кішэні".

Дзяржаўнае мысьленьне Л.Кучмы прываблівае многіх. І ў гэтым ён поўная супрацьлегласьць А.Лукашэнку. Адзін выказваецца за масавую прыватызацыю, за пашырэньне NATO, прызнае небясьпеку Чарнобыльскай АЭС, другі зацісkае прыватызацыю, напалоханы пашырэньнем NATO, упэўнены, што ЧАЭС не ўяўляе небясьпекі. Пакуль прэзідэнт Лукашэнка падымаў шлагбаўм на беларуска-расейскай мяжы, прэзідэнт Кучма дамовіўся з прэзідэнтам Клінтанам пра палёт украінскага касманаўта на амэрыканскім шатле. Кожны бярэ сваю вышыню. У рамках рэзэрвовай праграмы Міжнароднага валютнага фонду Украіна атрымала 1,5 млрд. даляраў, на што была адпаведная рэакцыя прэзідэнта Лукашэнкі: "Кучму купілі, мільярд яму даюць".

Але, калі адкінуць дыпламатычную нэрвовасьць прэзідэнцкай каманды, хочацца спадзявацца, што беларуска-ўкраінскія адносіны стануць гэткімі ж шырокімі і плённымі, як і беларуска-расейскія.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## *У сьвеце*

**Жэнэва.** Не ў 62 гады, як цяпер, а ў 64 будуць сыходзіць на пэнсію швайцарскія жанчыны. Гэта адна з галоўных нормаў новага заканадаўства, ухваленага ў Альпійскай рэспубліцы на рэфэрэндуме. Нягледзячы на вострую крытыку з боку прафсаюзаў, улады змаглі пераканаць грамадзянаў у неабходнасьці падвышэньня ўзроставай шкалы. Гэта дасьць магчымасьць папоўніць пэнсійныя фонды, якія ў Швэйцарыі, як і ў іншых заходнеэўрапейскіх дзяржавах, адчуваюць "перагрузку" ў сувязі са "старэньнем нацыі".

**Стакгольм.** Мінімальны аплочваемы адпачынак у Швэцыі складае пяць тыдняў (незалежна ад стажу, узросту, пасады ці месца працы). Пайсьці ў адпачынак можна ў любы месяц года, а пры жаданьні выкарыстаць яго па частках.

**Ню-Ёрк.** Узровень злачыннасьці за першыя шэсьць месяцаў 1995 г. у параўнаньні з адпаведным перыядам мінулага года зьменьшыўся на 18%. Колькасьць забойстваў зьменьшылася амаль на 32%. На думку амэрыканскіх экспэртаў, сёлета ўзровень злачыннасьці можа зраўняцца з адпаведнымі паказьнікамі 1970 г. — самага "спакойнага" за ўсю гісторыю горада.

**Ніказія**. На нэйтральнай паласе, што падзяляе горад Ніказію і ўвесь Кіпр на дзьве часткі (грэцкую і турэцкую), туркі пачалі ўзводзіць вайсковыя бэтонныя ўмацаваньні. Гэтыя дзеяньні выклікалі рэзка негатыўную рэакцыю з боку грэцкай часткі выспы і самой Грэцыі. Дарэчы, паблізу гэтай канфліктнай зоны адпачываюць шматлікія турысты з краінаў СНД, у тым ліку зь Беларусі.

**Хашымін.** Самым паслухмяным дзецям у Віетнаме, якія да таго ж актыўна ўдзельнічаюць у грамадзкім жыцьці, прысвойваюцца званьні "ўнукаў і пляменьнікаў дзядулі Хо" (Хо Шы Міна). У Ханоі іх сёньня больш за 400 тысяч, і якраз у гэтыя дні праходзіць іхны традыцыйны, ужо дзевяты па ліку, фэстываль. Такія масавыя мерапрыемствы праводзяцца рэгулярна раз у пяць гадоў.



# Гельмут Коль паабяцаў Польшчы падтрымку

**У мінулую суботу закончыўся візіт у Польшчу канцлера Нямеччыны Гельмута Коля.**

Падчас візіту, нямецкі лідар паабяцаў, што ягоная краіна і ён асабіста будуць падтрымліваць Польшчу ў яе намаганьнях увайсьці ў Эўрапейскі Зьвяз і NATO. Ён выказаў таксама перакананьне, што Польшча мае шанец трапіць у аб'яднаную Эўропу яшчэ ў гэтым стагодзьдзі. Канцлер Коль і польскі прэм'ер Алексы вырашылі, што будуць сустракацца штогод, каб разглядаць двухбаковыя стасункі. Палітыкі выказаліся таксама за ўмацаваньне польска-нямецка-францускага супрацоўніцтва ў рамках Ваймарскага трохкутніка.

Міністар эканомікі Нямеччыны Рэксродт, які суправаджаў канцлера Коля, сказаў, што Нямеччына будзе спрыяць прасьцейшаму доступу польскіх тавараў на рынкі Эўрапейскага Саюзу, а таксама пабудове магістралі Парыж—Бэрлін—Варшава—Менск—Масква.

Польскія СМІ падкрэсьліваюць, што зьбліжэньне Нямеччыны з былымі ворагамі — Францыяй, Ізраілем і Польшчай — сёньня робіцца рэальнасьцю. У 50-х гадох, дзякуючы палітыцы канцлера Адэнаўэра, немцы паразумеліся з Францыяй і Ізраілем, цяпер ёсьць шанец і для польска-нямецкага прымірэньня. Да 1989 г. гэта было немагчыма праз тое, што ў Польшчы быў камунізм. Цяпер аб'яднаная Нямеччына і сапраўды незалежная Польшча робяць стаўку на будучыню.

**Уладзімер ШНУРОВІЧ**



## *Пошта*

# Асьцярожна: савецкі чалавек!

Паважаная рэдакцыя СВАБОДЫ!

З вамі я пазнаёмілася мінулай зімой, дзякуючы сваёй калежанцы-настаўніцы, якая выпісвала вашу газэту.

Я лічу вашыя публікацыі праўдзівымі, зьмястоўнымі, актуальнымі. Толькі, на мой погляд, вы робіце памылку, ужываючы правапіс 20—30 гадоў. Паверце, што калі б вы прытрымліваліся правілаў сучаснай беларускай мовы, вы б ад гэтага толькі выйгралі. У многіх чытачоў узьнікае раздражненьне ў працэсе чытаньня і інфармацыя часам страчвае многае. Дарэчы, гэта ня толькі я так думаю. Як настаўніца беларускай мовы, я супраць такога пісьма. Вучні старэйшых класаў блытаюцца з правапісам (мяккага знака, у прыватнасьці), бо чытаюць пастаянна СВАБОДУ.

Патрэбна, каб людзі з усіх куткоў Беларусі чыталі СВАБОДУ, каб ведалі, што ёсьць такая газэта, у якой можна прачытаць праўду. Адкрывайце вочы на нашу гісторыю, публікуйце архіўныя дакумэнты, пішыце пра вядомых і невядомых патрыётаў краю. Друкуйце матар'ялы пра нашых суайчыньнікаў за мяжой, прычыны выезду зь Беларусі, іхныя праблемы, проста пра жыцьцё на Захадзе, дзе ёсьць сапраўдная свабода, вучыце нас пачуваць сябе свабоднымі людзьмі.

Вашу газэту ўважліва чытаюць тыя, хто сьпіць і сьніць пра тое, каб задушыць свабодалюбства. А вось пра фэномэн савецкага чалавека прачыталі многія і пагадзіліся з думкай аўтара артыкула. Які ж ён, савецкі чалавек? Прывяду прыклад. Мае бацькі (ім па 60 год) на просьбу маю і брата (мы маем 38 і 35 год) прагаласаваць "супраць" на рэфэрэндуме адмовілі. Як мы іх ні пераконвалі, яны прагаласавалі "за". Маці кажа: "Як гэта, каб усе гаварылі што каму хочацца? Трэба, каб усе слухаліся Лукашэнку і толькі яго. Трэба, каб баяліся, тады будзе парадак, як пры Сталіне".

Былі выбары ў мясцовыя Саветы. Яны не пайшлі галасаваць. Увечары прынесьлі урну, а бацька кажа: "Галасуйце за мяне як вам хочацца". І прагаласавалі — за яго і за маці.

Савецкія мае бацькі баяцца ўсіх, хто мае нават маленькую ўладу, вялікую радню і зносяць зьдзекі зь ціхім плачам. Наш сусед — камуніст (у канцы вайны ён сам пакалечыў сабе руку, каб не ўзялі ў войска, аціраўся каля партызанаў — і ён ужо вэтэран вайны) — усё сваё жыцьцё пакасьціў вяскоўцам, а нядаўна зрабіў выбрык, за які варта было даць па мордзе, а мае бацькі толькі спыталіся: "Навошта так зрабіў?" Што ж ён зрабіў? Ягоныя "соткі" мяжуюць з нашымі. Мы пасадзілі першымі, а ён садзіў праз тыдзень. Дык яму здалося, што мы на пяць мэтраў залезьлі на ягоны надзел з аднаго канца поля, а з другога на пяць мэтраў адступілі. І ён выраўняў: пяць мэтраў па нашай бульбе сваю пасадзіў, а з другога канца атрымаўся пусты клін.

Зь дзецьмі гэтага суседа я сябравала, хадзіла ў школу. Ці ня гад іхны бацька? Не, ён савецкі чалавек, які пакарыстаўся ільготамі і для ўсіх 6-ці дзяцей у тыя часы без чаргі пакупляў мэблю, халадзільнікі і ўсім затыкае рот, хто толькі пікне. Яго баяцца, ягонай чырвонай кніжачкі, бо на ягоным баку будзе савецкі маразматычны закон.

Заўважце, мае бацькі жывуць на Гомельшчыне, а я на Берасьцейшчыне. Людзі тут і там зусім не аднолькавыя. Заходнікі захавалі веру ў Бога і яшчэ не дайшлі да поўнай рабскай паслухмянасьці. Тут больш цывілізацыі, культуры, парадку.

Вось толькі мае разважаньні.

**З павагай ваша чытачка Т.КУДЗЯЛЕВІЧ, Берасьцейская вобл.**

